


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

31 студзеня 2003 года

№ 5 (406)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Семінар у этнакласе

**ВІЛЕЙКА.** 24 студзеня ў СШ № 4 прайшоў навукова-практычны семінар "Выхаванне пераемніка і носьбіта мясцовых мастацкіх традыцый, развіццё лепшых якасцей асобы". Мерапрыемствы праводзіліся вучнямі 6 "Е" этнакласа, кіраўнік якога Таццяна Адамовіч. У семінары ўдзельнічалі гурт "Талуцяначка" з вёскі Талуць і распрацоўшчык эксперыментальнага курса "Этнашкола" Ілля Сучкоў.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

### Пасля перапынку

**ВАЛОЖЫН.** У панядзелак у Канюшаўшчыне зноў адкрыўся магазін. Крама "Тавары паўсядзённага попыту" належыць раённай спажывецкай кааперацыі.
У вёсцы амаль год не працаваў магазін. Не было прадаўца. Цяпер сюды завезлі прадуктовых тавараў на 3 мільёны рублёў. У першы дзень выручылі 250 тысяч рублёў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Справа Каламійца

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду ў Маладзечна прыбыла група работнікаў кіеўскай пракуратуры, якая займаецца расследаваннем прычынаў смерці ўкраінскага медыябізнесмена і журналіста Міхаіла Каламійца. Яны наведалі Маладзечанскую міжрайпракуратуру, сустракаліся з маладзечанцамі, якія бачылі Каламійца ў апошнія дні яго жыцця. Нагадаем, цела кіяўляніна 30 кастрычніка мінулага года знайшлі ў Маладзечанскім раёне ў лесе павешаным.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Крымінальнае трыо

**МЯДЗЕЛ.** Работнікамі райаддзела ўнутраных спраў прыпынена дзейнасць крымінальнай групоўкі, якая спецыялізавалася на крадзяжах у жыхароў Кабыльніка. Тройца, у склад якой уваходзіў мужчына і дзве маладзіцы, не грэбавала прадуктамі харчавання, тазікамі з лазняў, скралі нават труса.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Паедуць у Ліду

**АСТРАВЕЦ.** На гэтым тыдні прайшоў адборачны тур на абласны конкурс народных інструментаў сярод вучняў музычных школ, які адбудзецца 23 лютага ў Лідзе. На конкурс паедзе вучань Алены Кулевіч баяніст Сяргей Максімовіч з Кямелішак і выхаванка Алены Капыловай цымбалістка Інэса Шучка з Астравецкай дзіцячай музычнай школы. Наступным этапам спаборніцтваў будзе рэспубліканскі конкурс у Пінску.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

# Абакралі два касцёлы

**У ноч на 25 студзеня злодзеі абрабавалі адразу два касцёлы: у вёсках Міхалішкі Астравецкага раёна і Засвір Мядзельскага. Здарэнні па свайму почырку настолькі падобныя, што можна амаль без сумнення сказаць: дзейнічалі адны і тыя ж злачынцы. Праўда, ёсць у гэтым і некаторыя цікавыя асаблівасці.**


Прыбіральшчыца касцёла ў Міхалішках Ванда Янкоўская першая ўбачыла сляды крадзяжу. Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА

### Вёска Засвір

Хутчэй за ўсё злодзеі спачатку пабывалі тут. Вечарам даяркі вярталіся дадому і бачылі, што ў касцёле гарэла святло. Падумалі, што жыхар Засвіра Іосіф Худы, які там дапамагае ксяндзу, паліць печку. Але не скемілі, што ў чацвер грэць будынак не мае сэнсу. Толькі ў суботу раніцай прыбіральшчыца ўбачыла адсутнасць рэчаў.

Сакратар касцёльнага камітэта Яніна Кісель сказала, што ўкралі не самыя каштоўныя прадметы. Гналіся за золатам, якога там проста не было. Тым не менш, ксёндз Гуслаў, калі прыехала міліцыя, ацаніў страту на суму больш за мільён рублёў.

Залезлі злачынцы ў касцёл даволі дзіўна. Спачатку спрабавалі выламаць уваходныя дзверы — не атрымалася. Тады прапілавалі краты на акне. Гэта павінна было заняць нейкі час, бо дыяметр прута складае 18 мм. Ніхто працэсу іх працы не бачыў, і гэта ўжо не дзіўна — у вёсцы жыве менш за 80 чалавек, амаль усе пенсіянеры. Адтуліна, праз якую залезлі ўнутр, настолькі малая, што туды нават паўнацэннае дзіця не пралезе. Адны дзеці гэта рабіць не маглі, бо ўнутры злачынцы цягалі такія рэчы, якія аднаму даросламу не пад сілу.

На пытанне, хто б гэта мог зрабіць, жыхары вёскі Засвір толькі паціскаюць плячыма. Але адразу заяўляюць, што наўрад ці хто з мясцовых.

### Вёска Міхалішкі

Абрабавалі касцёл Святога Міхала Архангела, які з'яўляецца адным з самых старажытных у нашым рэгіёне (пабудаваны ў 1653 годзе). Сёлета касцёлу спаўняецца 350 гадоў.

Прыбіральшчыца касцёла Ванда Янкоўская першая ўбачыла прапажу ікон. Асабліва каштоўнай была адна, якая напісаная ў 18 стагоддзі.

Злодзеі перапілавалі краты, залезлі ў захрыстую і зноў жа перапілавалі завесы на дзвярах, каб трапіць у асноўнае памяшканне касцёла, дзе віселі іконы. Але спачатку знайшлі ў скрыні ключ, з дапамогай якога адчынілі дзверы знутры на вуліцу — цяпер ужо маглі заходзіць дарослыя. Запалілі адну свечку. Адкрыць яшчэ адно памяшканне не ўдалося. Знялі іконы, забралі кубак. На адным стале скінутыя рэчы ставілі назад, на другім – пакідалі раскіданымі.

У касцёле ў Міхалішках засталіся сляды злодзеяў. На кратах знайшлі кусок світэра, а на абрусе — сляды ад ботаў новай мадэлі.

Хто б гэта мог зрабіць? Жыхары зноў жа паціскаюць плячыма. Кажуць, што шмат хто бывае ў касцёле: і турысты, і жыхары. І асабліва добра ведалі, дзе ляжаць ключы і як здымаюцца іконы, будаўнікі, якія раней рамантавалі касцёл.

Яшчэ дададзім, што ў свой час некалькі гадоў таму якраз гэтыя два касцёлы ўжо рабавалі. Тады страты былі невялікія.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

Намеснік начальніка Мядзельскага РАУС Іван Сымановіч паведаміў, што ў Засвірскім касцёле былі скрадзены 2 келіхі з жоўтага металу і харугва. Гэтыя рэчы не вельмі каштоўныя. Сума скрадзенага дакладна не вядомая – усё было набыта ў Польшчы. Даяркі, якія ў 5 гадзін міналі касцёл, бачылі там святло і чулі гук рухавіка машыны. Узбуджаная справа па 205 артыкуле, частцы 1. Злачынства лічыцца не цяжкім. Справа не можа быць закрытай, а пры адсутнасці складу злачынства толькі прыпыняецца. І калі з'яўляюцца новыя падазроныя – яе аднаўляюць. Іван Сымановіч выказаў думку аб сувязі злачынстваў у Засвіры і ў Міхалішках. У апошніх бачылі белы ВАЗ 2104 або 2102.

Па словах начальніка вышуку Астравецкага РАУС Віталя Рынкевіча, у касцёле ў Міхалішках выкралі 2 каштоўныя іконы: "Маці Божая Ружанкова" пачатку 19 ст., напісаная на палатне, і "Святой Ганны і Юахіма" пачатку 18 ст., напісаная на дрэве, а таксама ваза, што не ўяўляе значнай каштоўнасці. Сума скрадзеных рэчаў устанаўліваецца. Асоб, якія падазраюцца, пакуль няма.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**


Падпілаваныя краты ў Засвірскім касцёле. Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

### Кумпячкоў ужо наеліся

Чаму амерыканскія кумпячкі такія вялікія? Загадчык ветлабараторыі Альфонс Пятрашка адказаў, што парода такая і корм добры. Хаця на самой справе ніхто не ведае, якія кумпячкі мы ядзім і цяпер: імпартныя або айчынныя

3-я старонка

### Салдат Монтэ-Касіна

Ветэран другой сусветнай вайны Якуб Конан:
— Я шмат разоў глядзеў смерці ў вочы. І калі я думаю пра тыя жахі, якія давялося перажыць падчас сталінскіх лагераў, мне здаецца, што няшчасце было на кожным кроку. І ўсё ж... побач ішло шчасце.

6-7 старонкі

### Спяшайцеся ўдзельнічаць!



На спартыўнай старонцы вы знойдзеце пытанні першага этапа конкурсу на веданне правіл розных відаў спорту.

9-я старонка

# Хто ён, Генадзь Бураўкін?

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ці трэба вам гаварыць, хто такі Генадзь Бураўкін? Мабыць, не. Сам ён таксама так лічыць: "Які ж я тады знакаміты, калі буду расказваць пра сябе? Ды і, як кажуць, добра пра сябе гаварыць няёмка, а дрэнна гаварыць не хочацца." Так пачалася яго сустрэча з маладзечанцамі 22 студзеня ў музычнай школе. Паэт чытаў свае вершы з трох зборнікаў. Гэта "Выбранае" (1998г.); "Паміж зоркай і свечкай" (2000г.), кніга, якой Генадзь Мікалаевіч скончыў XX стагоддзе (дарэчы, яна пабачыла свет ў маладзечанскай друкарні "Перамога"); і яго першы зборнік у XXI стагоддзі "Чытаю тайнапіс вачэй" (2001г.). На літаратурнай вечарыне прагучалі таксама яшчэ неапублікаваныя творы.



Генадзь Бураўкін спяшаўся на цягнік, але, нягледзячы на гэта, у канцы сустрэчы даў аўтографы ўсім жадаючым. Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

### Вершы

Генадзь Бураўкін эмацыянальна чытаў свае вершы, трымаючы кнігу то ў правай, то ў левай руцэ, а свабоднай рукой размахваў у паветры, перадаючы настрой твора. Пры словах "Беларусь адгукалася, значыць не ўмёрла, Беларусь не знямела, а значыць, жыве" ён трымаў руку на сэрцы. Распавядаючы аб прыгожых ножках дзяўчат ("І мне таксама міні даспадобы, хоць я ўжо і спазніўся ў жаніхі"), усміхаўся юнацкай бадзёрай усмешкай. Калі ўпэўніваў нас у тым, што "І памру я белай варонай, не збіраючыся чарнець", сціскаў руку ў кулак, быццам паказваў сваю настойлівасць. А чытаючы верш "Скрыпка", вадзіў рукой, нібы трымаў смычок. Ну, а калі ўжо скончыў адзін са сваіх вершаў словамі "Непрыгожых жанчын не бывае, проста шмат невідушчых мужчын", уся зала проста ўзарвалася апладысментамі.

Прагучалі там і "калючыя", як сказаў Генадзь Бураўкін, вершы: "Улада", "Дарваўся", "Але ж", "Папытайце філарэта" – і такі знакаміты твор, як "Малітва", што быў пакладзены Эдуардам Ханком на музыку.

Генадзь Мікалаевіч пазнаёміў маладзечанцаў са сваімі творчымі планамі на бліжэйшы час. У друкарні ўжо ляжыць гатовая кніга "Жураўліная пара" з асеннім настроем. У яе ўваходзяць вершы канца стагоддзя. Таксама напалову напісаны яшчэ адзін зборнік "Лісты да запатрабавання". Вершы ў гэтай кнізе, як пісьмы на пошце. Чалавек прыходзіць і пытае: "Ці ёсць што для мяне?" Так і паэт спадзяецца, што людзі знойдуць нешта сваё ў гэтых вершах і адчуюць патрэбу ў іх.

### Наркомаўка і тарашкевіца

Генадзь Бураўкін з радасцю адказваў на пытанні слухачоў. Здалося, што абсалютна ўсе пытанні зацікавілі паэта. Выказваючыся наконт існавання двух варыянтаў моў – тарашкевіцы і наркомаўкі, – ён сказаў, што тут гаворка ідзе аб жыцці мовы. "Калі не будзе боязі, што мова знікне, давайце навядзём парадак. Наша мова павінна быць блізкая народу, тут спяшацца нельга. Канешне, лепш было б пакінуць мяккія знакі, як у тарашкевіцы. Бо некаторыя людзі так і гавораць, як пішуць: "снег" з цвёрдым "с". Але казаць глёбус або плян мне нязручна".

### Аб «Полымі» і інтэлігенцы

Генадзь Мікалаевіч выказаў думку аб невясёлай перспектыве часопіса "Полымя". "Уся наша класіка прайшла праз гэты часопіс: Ніл Гілевіч, Іван Мележ, Васіль Быкаў і іншыя. Аднойчы адзін з пісьменнікаў сказаў: "Што ўсё Быкаў і Быкаў? У мяне такі самы білет члена Сюза пісьменнікаў!" Так, білет аднолькавы, а вось талент розны. Сёння групоўка "Полымя" не такая таленавітая. Чалавек, які паважае сябе, цяпер туды не пойдзе".

Яшчэ адно пытанне тычылася сходу мінскай інтэлігенцыі. Генадзь Бураўкін сказаў, што хутчэй за ўсё сутычка, якая адбылася там паміж Станіславам Шушкевічам і Анатолем Белым, была спланаванай правакацыяй. Зямляк маладзечанцаў Пётр Краўчанка быў выбраны на Усебеларускі з'езд інтэлігенцыі. "А ў дэталі яго адысеі, – сказаў Генадзь Мікалаевіч, – я не ўлазіў".

### Будзе ўлада – будзе гімн

Паэт лічыць, што, як зменіцца ўлада, паўстане пытанне аб новым гімне Беларусі. "Мы пайшлі па ўзору Расіі, калі на тую ж музыку, у дадзеным выпадку Сакалоўскага, былі пакладзены новыя словы Карызны. Гімн – самая ўрачыстая песня краіны. Гэта ж здзек – так пісаць." Ды і ўвогуле, Генадзь Бураўкін лічыць, што пры напісанні новага гімна былі парушаны аўтарскія правы. Унук Клімковіча і адна з яго дачок былі катэгарычна супраць, каб верш іх бацькі і дзеда быў выкарыстаны як верш новага гімна. Была зроблена яшчэ адна этычная памылка: Карызна не з'яўляецца сааўтарам Клімковіча, а толькі адрэдагаваў яго тэкст. "Сённяшні гімн не з'яўляецца гімнам новай Беларусі. А калі мы хочам вярнуцца да савецкіх часоў, то ён падыходзіць. Я, напрыклад, лічу, што песня Васіля Раінчыка і Леаніда Брынчака "Жыві, Беларусь" не горшая".

Дык усё-такі, хто ён, Генадзь Бураўкін? Так, ён паэт, але ў першую чаргу – паэт нашай роднай Беларусі і проста чалавек, які любіць свой край... "А калі не спяваць аб Радзіме, дык навошта наогул спяваць?" Што тут яшчэ можна дадаць?..

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

## РЭПЕРТУАР Мінскага абласнога драматычнага тэатра на люты

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

*21 пятніца 10.00* **"Буслік супраць Кадука"** (муз. казка-трылер) Георгій Марчук

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

*1 субота 17.00, 2 нядзеля 17.00* **"Сільвія"** (меладрама-трагікамедыя пра каханне) А.Герні

*5 серада 19.00* **"Без мяне мяне жанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) Франц Ксавер Кроц

*8 субота 17.00* **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) Уладзімір Рудаў

*11 аўторак 19.00* **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях) Аляксей Дудараў

*12 серада 19.00* **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй

*13 чацвер 19.00* **"Хочаш вер – хочаш не вер"** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута

*15 субота 17.00* **"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) Юрый Вута

*19 серада 19.00* **"Кім"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў

*22 субота 17.00* **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын

*25 аўторак 19.00* **"Секс па перапісцы"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях) Лявон Вашко

*26 серада 19.00* **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) Рабер Тама

*27 чацвер 19.00* **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў

**Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай МАЦКЕВІЧ.**

## Прэм'ера

Сёння калектыў Мінскага абласнога тэатра нарадуе сваіх прыхільнікаў чарговай прэм'ерай – гэта меладрама-трагікамедыя пра каханне (так вызначыў жанр рэжысёр) "Сільвія" А.Герні.

Галоўны герой Грэг апынуўся перад выбарам паміж жонкай і сабакам. Што ж пераважыць? Каханне да жонкі ці любоў і прывязанасць да сабакі?

У пастаноўцы занятыя: Таццяна Грасевіч, Ірына Кляпацкая, Яўген Іўковіч, Андрыян Барткевіч, Сяргей Карзей, Ірына Камышава, Людміла Рошчына, Эмілія Ларыёнава.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**



## «Беларусь. Гістарычныя вандроўкі»

### Дзіцячы гістарычны літаратурна-мастацкі конкурс

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" запрашае школьнікаў Беларусі 12-14-гадовага ўзросту ўзяць удзел у конкурсе "Беларусь". Гістарычныя вандроўкі".

Конкурс праводзіцца па намінацыях:

1. Творы на гістарычную тэму: пра значныя падзеі, славутыя асобы гісторыі Беларусі, гістарычныя помнікі (сачыненне, балада, паэма, вершы, паданне).
2. Жывапісныя творы, прысвечаныя гістарычным падзеям, славутым асобам, помнікам гісторыі. (Фармат графічных і жывапісных прац да 70 см па вялікім баку. Кожная праца павінна быць падпісана друкаваным шрыфтам на зваротным баку).

Калектыўныя працы павінны мець суправаджальны ліст. Усе працы павінны мець зваротны адрас, прозвішча і імя ўдзельніка, узрост, па магчымасці кантактныя тэлефоны.

У сувязі з 450-годдзем Рэфармацыі, асаблівая ўвага будзе надавацца работам, прысвечаным XVI стагоддзю Беларусі.

Работы прымаюцца да 15 красавіка 2003 года. Пераможцы конкурсу атрымаюць каштоўныя ўзнагароды.

Працы накіроўваць на адрас: 220050, г.Мінск, вул.Рэвалюцыйная, 15. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

Літаратурныя творы можна накіроўваць электроннай поштай: zbsb@lingvo.minsk.by

Кантактны тэлефон 289-31-94.

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на люты 2003 года

*2 нядзеля 12.00* Ул. Грамовіч **"Тыграня Петрык"**

*9 нядзеля 12.00* Р.Осцер **"Прывітанне для Малпачкі"**

*15 субота 12.00* В.Швэмбергер. **"Маша і Мядзведзь"**

*16 нядзеля 12.00* П.Васючэнка. **"Страшнік Гам"**

*22 субота 12.00* П.Васючэнка. **"Новы Калабок"**

*22 субота 17.00* П.Васючэнка. **"Яна і я"** (для дарослых)

*23 нядзеля 12.00* С.Кавалёў. **"Заяц варыць піва"**

*23 нядзеля 17.00* П.Васючэнка. **"Здарэнне з маёрам Кавалёвым і ягоным носам"** (для дарослых)

Чакаем вас па адрасе: вул. Драздовіча, 5-в.



## Прозвішчы–2003

**ВАЛОЖЫН. Па апошніх дадзеных пашпартна-візавай службы, у раёне жыве 144 чалавекі з прозвішчам, якое паходзіць ад назвы такой сваволнай, але заўсёды добрай жывёліны – казы.**

36 чалавек маюць прозвішча Козел, 71 – Казлоўскі (ая), 30 – Казлоў (ва), 4 – Казловіч, 3 – Казко.

І была яшчэ адна жанчына з прозвішчам Казадой. Але яна нядаўна выйшла замуж і змяніла яго.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Самы папулярны

**МЯДЗЕЛ. Летась найбольш дзяцей у раёне назвалі Аляксандрамі — 13. Яшчэ для хлопчыкаў папулярнымі імёнамі былі Уладзіслаў і Дзмітрый (па 10).**

А дзяўчат часцей за ўсё называлі Ганнамі і Лізаветамі — па 8, Анастасіямі і Палінамі — па 7. Сярод новых жыхароў раёна ёсць і Аляўціна, Руслана, Эмануіл, Давід і Алесь.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Кумпячкоў ужо наеліся

**МАЛАДЗЕЧНА. Каля году на калгасным рынку гандлявалі курынымі кумпячкамі. Іх прадалі больш за 800 кілаграмаў.**

З 16 студзеня ветэрынарная служба Мінсельгасхарчу Беларусі поўнасцю забараніла увоз у краіну курынага мяса з амерыканскага штата Каліфорнія. Прычынай стала афіцыйнае паведамленне беларускаму боку па лініі міжнароднага эпізаатычнага бюро аб тым, што ў гэтым штаце ўведзены каранцін з-за ўспышкі курынай хваробы Ньюкасла. Яна не з'яўляецца небяспечнай для чалавека, але смяротная для птушкі.

Забарону на ўвоз у Беларусь курынага мяса з Каліфорніі ў галіновым міністэрстве разглядаюць перш за ўсё як неабходныя меры па ахове пагалоўя нашых птушкафабрык. Пасля аздараўлення птушкі ў ЗША ветэрынарная служба Беларусі разгледзіць пытанне аб аднаўленні імпарту кумпячкоў.

У Маладзечна кумпячкі прывозілі з мінскіх аптовых складаў. У дадатак прыкладаўся пакет дакументаў. Сюды ўваходзіла ветэрынарнае пасведчанне, у якім быў дазвол на гандаль кумпячкамі. А таксама вынікі даследаванняў на радыяцыю, наяўнасць у іх кішэчнай інфекцыі (сальманелёзу). Другі дакумент – пасведчанне якасці кумпячкоў. У ім указвалася дата забою. І дата выпрацоўкі. Яшчэ быў указаны тэрмін рэалізацыі. Ён пачынаецца з даты забою. Захоўваць кумпячкі можна тры месяцы. Калі кумпячкі ў глыбокай замарозцы і паказчыкі лабараторных даследаванняў у норме, тэрмін захавання павялічваецца.

Усе гэтыя дакументы бралі там, дзе атрымлівалі тавар.

Паўторныя даследаванні ў Маладзечне не праводзіліся. Гэтага ніхто і не патрабаваў. Лабараторыя ветэрынарна-санітарнай экспертызы рынку і раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі правяралі наяўнасць гэтых дакументаў. Калі ў ветлабараторыі сумняваліся ў якасці, рабілі пробу варкай.

На пытанне, чаму амерыканскія кумпячкі такія вялікія, загадчык ветлабараторыі Альфонс Пятрашка адказаў, што парода такая і корм добры. "Хаця на самой справе ніхто не ведае, якія кумпячкі мы ядзім і цяпер: імпартныя або айчынныя. Што напішуць у дакументах, на этыкетках, тое і прачытаем", — дадаў ён.

Напрыклад, у пятніцу курыных кумпячкоў на пастаянным іх месцы гандлю не было. А калі наведвальнікі рынку прыпомняць, вытворцам на этыкетках былі пазначаны Смалявічы, Мінск.

**Ірына РАБУШКА.**



Курыныя кумпячкі – нацыянальная страва беларуса. Як калісьці ў Савецкім Саюзе селядцы івасі (куды яны падзеліся?). Хутка аб «ножках Буша», магчыма, прыйдзецца забыць. Хаця яны былі такімі смачнымі...

Фота IREX/ProMedia.

## Запас бяды не чыніць

У сродках масавай інфармацыі распаўсюдзілі навіну пра тое, што ў рэспубліку часова забаронены пастаўкі каліфарнійскіх (ЗША) курыных кумпячкоў у сувязі са знаходжаннем у іх курынай чумы – хваробы, небяспечнай для айчыннай птушкі. І хоць было напісана, што айчынны спажывец не пацерпіць, я вырашыў зрабіць запас.

На аптовым рынку ў Мінску ўпакоўка кумпячкоў (15 кг) каштуе 32 700 рублёў, ці 2180 за 1 кг. На ўпакоўцы ёсць уся неабходная спажыўцу інфармацыя: дата вырабу, тэрмін і рэжым захоўвання (ён складае 1 год, захоўваць іх трэба пры тэмпературы -18 градусаў), штамп ветэрынарнага агляду і нават нумар прадпрыемства, па якім можна вылічыць, на якой птушкафабрыцы выгадаваны кураняты.

Купля адной упакоўкі "ножак Буша" застрахавала мяне на бліжэйшую будучыню ад магчымых перабояў з пастаўкамі кумпячкоў і іх падаражаннем, а калі ўлічваць, што кумпячкі ў Вілейцы на рынку каштуюць 3300 рублёў, я яшчэ і зэканоміў 16800.

**Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 23.01 руб. | 30.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1938,00 | 1947,00 |
| Еўра | 2072,50 | 2119,50 |
| Злоты | 501,36 | 511,76 |
| Літ | 600,16 | 613,98 |
| Расійскі рубель | 60,93 | 61,23 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1930/1955 | 1940/1965 |

### Маладзечна
### Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 22.01 | 29.01 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11300 | 10500 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4510 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 740 | 740 |
| Грэчка, 1 кг | 1050 | 1100 |
| Цукар, 1 кг | 1000 | 1045 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1250 |
| Алей, 1 л | 1650 | 1550 |
| Маянэз, 200 г | 430 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 600 | 630 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 750 |
| Капуста, 1 кг | 790 | 790 |
| Морква, 1 кг | 700 | 720 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1700 | 1650 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 3500 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1200 |




Фота Алега ГАРУНОВІЧА.

## За ўсё трэба плаціць

**26 студзеня 2002 года гарвыканкам зрабіў крок да пераводу школ на рэйкі самаакупляльнасці. Быў зацверджаны спіс платных паслуг, якія і будуць аказваць школы з 1 лютага 2003 года**

У гэты спіс трапілі як і традыцыйныя для школ спосабы зарobку грошай (здача ў арэнду басейнаў, трэнажорных залаў), так і новыя. Напрыклад, даведкі для навучэнцаў цяпер стануць платнымі. Кошт адной складае 120 рублёў. Яшчэ адно новаўвядзенне – ксеракопія (96 рублёў за ліст).

Змены будуць тычыцца і настаўнікаў. Каб атрымаць даведку для налічэння пенсіі, давядзецца заплаціць 1200 рублёў, даведка аб сярэдняй заработнай плаце або пацвярджэнні стажу абыдзецца ў 540 рублёў.

Дублікат згубленага атэстата альбо пасведчання аб адукацыі ацэньваецца ў 10-разовым памеры ад кошту арыгінала. Падрыхтоўка дзяцей 5-6-гадовага ўзросту да школы і заняткі ў школе для адораных таксама стануць платнымі.

Выручка ад гэтых паслуг будзе пераводзіцца на спецыяльны рахунак, які кантралюе гарана. Ён, дарэчы, будзе вяртаць гэтыя грошы назад у залежнасці ад планаў школы.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

■ ЭКАНОМІКА

# Усё вышэй і вышэй!

З 20 снежня кошт кубічнага метра халоднай вады ўзрос з 74,56 да 111,83 рубля, плата за ацяпленне (1 гігакалорыя) – з 13357,57 да 16696,25 рубля. Гэта было не першае павышэнне тарыфаў за 2002 год. А ў лютым зноў плануецца падняць тарыфы.

Цяпер, калі плацельшчыкі будуць разлічвацца за камунальныя паслугі мінулага месяца, іх чакае яшчэ адзін сюрпрыз: з 15 студзеня ўзраслі тарыфы на прыродны і звадкаваны газ і электраэнергію. Цяпер 1 кубічны метр прыроднага газу каштуе 139,1 рубля для шматпавярховых дамоў і 92,8 рубля для дамоў з газавым ацяпленнем. Раней кошт быў 103 і 79,3 рубля адпаведна. Цана звадкаванага газу ўзрасла з 275 да 371,25 рубля.

Што тычыцца электраэнергіі, то цяпер кошт аднаго кілавата складзе 64,6 рубля (да 15 студзеня – 47,2). Атрымліваецца, што месяц па тарыфах на газ і электраэнергію разбіваецца на дзве паловы. Да 15 студзеня тарыфы былі адны, пасля – ўзраслі. Як вылічыць, колькі газу і энергіі было ўжыта ў кожнай палове паасобку?

Сёння мінімальны заробак складае 40670 рублёў. Прыкладна столькі каштуе і "пакет" камунальных паслуг, уключаючы газ, электраэнергію, ацяпленне і плату за тэлефон, ваду і іншае.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

# Шлях «у нікуды»...

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасля таго, як закрылі выцвярэзнік, п'яных прывозяць у рэанімацыйнае аддзяленне гарадской бальніцы. У гэтым аддзяленні 8,3% лятальных зыходаў, з іх 0,3% — ад алкагольнага атручвання.**

З 1 па 28 студзеня ў рэанімацыі пабывала 14 п'яных у алкагольнай коме. Звычайна іх прывозяць пад вечар. Аднаго з 10 п'яных пасля таго, як пройдзе хмель, забіраюць сваякі. Астатніх адпускаюць "у нікуды".

У рэанімацыйным аддзяленні 9 ложкаў. Звычайна ўсе занятыя. Па словах загадчыка рэанімацыйнага аддзялення Пятра Шугалы, прывесці ў прытомнасць п'янога каштуе каля 30 тысяч рублёў. Плюс электраэнергія, вада і, канешне, работа медперсаналу і каштоўны час. П'яных фіксуюць (проста кажучы, прывязваюць) прасцінай і спецыяльнымі вяроўкамі да ложкаў. Адны ціхенька спяць. Іншых "цягне на подзвігі". Мацюкаюцца, абражаюць, лезуць біцца да медсясцёр. Неабходны час, каб п'яны праспаўся. Потым нічога не памятае. Побач з гэтымі хворымі часта ляжаць іншыя... пасля аперацыі.

Узрост п'яных, што трапляюць у рэанімацыю, вагаецца ў межах 16-80 гадоў. Аднойчы 82-гадовы дзядуля "перабраў". Кабана закалоў дый адсвяткаваў. Гадоў 5 таму, прыпамінае П.Шугала, пілі ў асноўным мужчыны 20-40 гадоў. А цяпер і жанчыны таксама. Доктар кажа, колькасць п'яных залежыць ад зарплаты, святаў... Дарэчы, з 10-гадовага вопыту доктар заўважае, што лягчэй дзяжурыць у каталіцкія святы. У праваслаўныя – п'яных нашмат больш. Увогуле, у цёплую пару года іх менш, чым у халодную. У гэтую ж марозную зіму ў 60-70% п'яных былі абмаражэнні. Такіх потым у адпаведнае аддзяленне адпраўляюць. 80% п'яных трапляюць яшчэ з якім-небудзь спадарожным захворваннем ці нажавым раненнем, чэрапна-мазгавой траўмай.


Разап'ем на траіх... Фота IREX/ProMedia.

### «Алкагольныя» пытанні да доктара

**— Што такое запой?**

— Наш арганізм сам выпрацоўвае пэўную колькасць алкаголю. Калі яго не хапае, то ў ім узнікае патрэба.

Да таго ж у арганізме чалавека ёсць фермент, які разбурае алкаголь. Калі ён перастае выпрацоўвацца, становіцца дрэнна. Ад чалавека можа пахнуць ацэтонам. Атрымліваецца эфект "бадуна" і хочацца выпіць. Арганізм пачынае ленавацца. І прасцейшым ратункам у гэтым выпадку, на жаль, становіцца шклянка гарэлкі.

**— Што трэба рабіць, каб не ап'янець?**

— Не піць. Тады не адбудзецца тое, пра што я расказаў. Хаця, канешне, важна, хто п'е, што, калі, з кім і колькі.

Напрыклад, у чырвоным віне ёсць пэўныя вітамінныя і мінеральныя комплексы. Французы нават у вену яго ўводзяць. На нашых людзей алкаголь уздзейнічае інакш. Таму ад кашлю замест віна лепш усё ж такі піць малако з мёдам ці чай з малінавым варэннем.

**— Ці дапамагае кадзіраванне ад п'янства?**

— Самы лепшы паратунак, калі чалавек сам сабе скажа "не". Чалавек, які сарвецца пасля кадзіравання, п'е яшчэ больш.

**— Праўда, што медыкі співаюцца часцей за іншых?**

Думаю, што не. Калі такое адбываецца, усяму віной псіхаэмацыянальныя стрэсы. Я і сам спірт у студэнцкія гады пакаштаваў. Гэта лекі, а яны смачнымі не бываюць.

**Ірына РАБУШКА.**

# Хвароба за свае грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе і раёне 2021 хворы на хранічны алкагалізм. Сярод іх 280 жанчын. Ёсць і 57 падлеткаў, у якіх выявілі алкагольную залежнасць. Яшчэ 2980 хворых лечыцца ананімна.**

Усе яны стаяць на ўліку ў гарадскім псіханеўралагічным дыспансеры (ПНД). Галоўны ўрач ПНД Мікалай Сураўцаў лічыць, што алкагалізм – гэта хвароба, якую чалавек купляе за свае грошы. Ён і расказвае пра гэтую хваробу.


Галоўны ўрач Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Мікалай Сураўцаў. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Мужчыны співаюцца за 5-12 гадоў. Усё пачынаецца так. Спачатку п'янеюць ад маленькай колькасці выпітага. Потым ужо і вялікая колькасць не бярэ. З узрастаннем алкагольнай залежнасці фарміруецца пахмельны сіндром, з'яўляюцца правалы памяці. Запоі становяцца больш працяглымі. Бывае, у зацяжным запоі арганізм так атручаны, што чалавек і піць не можа, і не можа не піць. З далейшым развіццём алкагольнай залежнасці чалавек зноў пачынае п'янець ад малых доз. Гэта трывожны сігнал. З яго пачынаецца выражаная алкагольная дэградацыя.

Любая паўза за сталом запаўняецца чаркай. У алкаголікаў з'яўляецца спецыфічны гумар. І, напэўна, самае страшнае для мужчын-алкаголікаў, — ён не ведае, што такое секс у цвярозым стане. І без чаркі нічога не можа зрабіць.

Кажуць, калі гіне жанчына, то і род таксама. Яны становяцца алкагалічкамі значна хутчэй за мужчын. Дастаткова 3-5 гадоў. А вылечыць іх складаней.

Калі падлетак пачынае ўжываць спіртное з 14 гадоў, то да 18 ён становіцца алкаголікам. Часцей дзеці пачынаюць піць ў нешчаслівых, няпоўных сем'ях альбо ў тых, дзе напружаныя адносіны, шмат сварацца. Дзеці алкаголікаў маюць большую рызыку захварэць на алкагалізм.

Да кожнага алкаголіка — індывідуальны падыход лячэння. Ёсць і такія метады: робяць уколы ці ўшываюць у мышцу таблетку. Чалавеку пры гэтым кажуць, што памрэ пасля першай выпітай чаркі. Экстрасэнсы прапануюць адсячы энергетычны хвост. Найбольш папулярны спосаб лячэння алкаголікаў – кадзіраванне. Тым, хто рашыўся лячыцца, варта ведаць, што толькі на 7-10 дзень можна пачынаць лячэнне. Усе гэтыя дні нельга піць. Да гэтага лечаць ускладненні алкагольнага атручвання, выводзяць з запою. Мужчыны лягчэй пагаджаюцца кадзіравацца. Жанчыны цяжэй: "Няўжо я такая алкагалічка, што ўжо пара кадзіравацца".

Кадзіраванне не заўсёды вырашае праблему. Варта, каб чалавек захацеў перамагчы хваробу. Здараецца такое, што на наступны дзень просяць раскадзіраваць. А доктар не мае права адмовіць.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ці варта ўжываць алкаголь?



**Андрэй Горбач, беспрацоўны:**

— 150 грамаў шампанскага ці крыху чырвонага віна на свята можна выпіць. Але беларусы лыжкай піць не ўмеюць. Мы адносімся да нацыі, якая шмат п'е. А п'ём ад безвыходнасці. І вінаватая ў гэтым — дзяржава.



**Наталля Мушавец, мастачка:**

— Варта, але ва ўмеранай колькасці. І да наступлення добрага настрою. Лепш піць чырвонае віно. Ім можна лячыцца. А калі піць 1-2 літры піва ў дзень, то будзе разбурацца печань.



**Сяргей Фядотаў, беспрацоўны:**

— Трэба. 50 грамаў у тыдзень пасля лазні. Лепш добрага віна ці гарэлкі. А ёй ці спіртам можна панізіць тэмпературу цела ці прадэзінфіцыраваць рану. Гэта ж можна рабіць і знутры.



**Віктар Травіцкі, прадавец:**

— Не. Калі толькі па святах. Прыкладам, віно ці каньяк. У тое, што віном альбо іншым алкагольным напоем можна лячыцца ад кашлю ці іншых хваробаў, не веру. Наадварот, ад алкаголю трэба лячыцца.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ АПЫТАННЕ

# Жывеш – выпіць хочацца...

**"Жывеш — выпіць хочацца, вып'еш — жыць хочацца" — жарт, які апошнім часам становіцца рэальнасцю. Чым горш людзі жывуць, тым адпаведна яны часцей заглядаюць у чарку.**

Дакладна цяжка падлічыць, колькі ў нас тых, хто п'е, ці наогул неўжывае. І што людзі п'юць? Як часта? Каб адказаць на такія пытанні, мы звярнуліся да жыхароў нашага рэгіёну.

Атрымалася, што толькі дзве жанчыны і адзін мужчына з апытаных не дакранаюцца да алкагольных напояў. Астатнія такой неабходнасці перад сабой не бачаць. Палова жанчын і дзяўчат аддалі перавагу, што поўнасцю зразумела, віну добрай якасці. Таксама не супраць слабаалкагольных — шампанскага і піва. 10% жанчын з пачуццём, выразнасцю прызналіся, што эфект гарэлкі цяжка замяніць якім-небудзь іншым напоем. Толькі 5% прыгажунь любяць элітны для сярэднестатыстычнага беларуса марціні.

Мужчыны на моцныя градусы таксама не налягаюць, што можа стаць для многіх адкрыццём. На першым месцы, вядома, піва. 23% мужчын усё ж схіляюцца да "надзейнай" гарэлкі. Не адмаўляюцца і ад добрага віна.

Большасць з апытаных выпівае не больш за 2 разы на месяц, што не можа не выклікаць аптымістычнага настрою. Не ведаем, што мелі на ўвазе людзі, якія п'юць толькі на святы, бо святочных дзён у нас хапае. Штодзень п'юць толькі мужчыны.

Канешне, мы сустрэлі і тых, хто ўвогуле не ўжывае. Каму здароўе не дазваляе, а хто закадзіраваны.

Хто не п'е шампанскага на Новы год? Толькі адзін рэспандэнт, ён не хоча змешваць напоі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Як часта выпіваем

#### Жанчыны




#### Мужчыны




### Якім напоям аддаём перавагу

#### Жанчыны




#### Мужчыны



# Салдат Монтэ-Касіна



Якуб Конан (злева) у Войску Польскім.

Фота з сямейнага альбома Якуба КОНАНА.

Кажуць, каб варта пражыць жыццё, трэба выгадаваць сына, пасадзіць дрэва і пабудаваць дом. Якуб Конан выгадаваў сына, пасадзіў не адзін дзесятак дрэў і пабудаваў тры дамы.

## Бацькаўшчына

Мой зямляк Якуб нарадзіўся ў сакавіку 1913 года ў сям'і, дзе было шасцёра дзяцей. Маленькая вёсачка Міхалова, у якой было 10 двароў, так шчыльна прытулілася да вёскі Сакольнікі, што нават вуліца агульная. Калі 1 верасня Гітлер распачаў другую сусветную вайну, то першай пад ударамі фашыстаў апынулася Польшча. Польскі ўрад аб'явіў мабілізацыю, якая распаўсюджвалася і на заходнія раёны Беларусі. Так Якуб Канстанцінавіч апынуўся сярод салдат Войска Польскага, якое першым паглядзела ў вочы вайне. Польская дзяржава апынулася ў даволі цяжкім становішчы. Як толькі Гітлер пачаў акупацыю Польшчы, з Усходу пайшлі савецкія войскі з мэтай вызвалення раёнаў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Частка польскага войска з раёна Усходняй Прусіі была перакінута на абарону Львова. Там апынуўся і Якуб. А ў хуткім часе з часткай сваіх саслужыўцаў быў узяты ў палон савецкімі войскамі.

## Жыццё пад канвоем

Першым лагерам, у якім апынуўся Якуб Канстанцінавіч, быў лагер у горадзе Шапятоўка на Украіне. Праўда, там затрымалі вязняў усяго толькі на некалькі тыдняў. Потым пагрузілі ў таварныя вагоны і павезлі ў бок Крывога Рога, дзе іх чакалі руднікі імя Арджанікідзе, імя Леніна. З гэтага часу з імі абыходзіліся як з "ворагамі народа". Вязням не давалося доўга затрымацца ў цёплых мясцінах Украіны. Не ведалі яны, што чакае іх наперадзе. Больш таго, спадзяваліся нават на вызваленне. Але ў маі 1940 года іх прывезлі на чыгуначную станцыю, дзе чакаў звычайны "таварняк", ці "цялятнік", як гаварылі ў народзе. З абодвух канцоў саставу стаяў узброены канвой. Закрыўшы вагоны, везлі чыгункай, потым везлі машынамі. Спыніліся ў Комі ССР на беразе аднаго з прытокаў Пячоры. "Высадзілі на адкрытым месцы пры 70-градусным марозе, — расказвае мой субяседнік. — Зрабілі баракі, якія не ацяпляліся. Яды не было. З першых дзён людзі сталі паміраць ад голаду і нясцерпнага холаду. Той, хто стаяў яшчэ на нагах і мог нешта рабіць, быў падобны на шкілет. Пазней сталі карміць: раніцай паўлітра супу, вечарам удвая больш. Але і гэта не паправіла становішча. Людзей апанавалі вошы. Па загаду Сталіна, працавалі на будаўніцтве чыгункі. Кожны дзень закопвалі памерлых. Ямы капалі тыя, хто яшчэ рухаўся, але гэта доўга працягвацца не магло: знясіленыя вязні не маглі падняць лом, каб разбіць вечную мерзлату, і людзей проста засыпалі снегам. Працавалі па 12-14 гадзін у суткі, а калі надыходзіла ноч – спаць не клаліся, каб не замерзнуць. Бегалі адзін за другім па бараках, каб хоць як-небудзь сагрэцца. Праз некалькі месяцаў нас засталося ў жывых толькі палавіна. Але нас зноў пагрузілі ў "таварняк". Як ні цяжка было пераносіць голад, усё ж мы хацелі толькі аднаго: каб перавезлі нас у больш цёплае месца... Перавезлі ў Котлас."

## Вайна. 1941 год

"Як ні парадаксальна, але выратавала нас ад смерці вайна, распачатая супраць Савецкага Саюза ў чэрвені 1941 года, — расказвае далей Якуб Канстанцінавіч. – Сталін пагадзіўся перадаць нас зноў польскаму войску. Перад выездам з Котласа нас прымусілі распрануцца да апошняй кашулі. Агледзелі. Потым дазволілі апрануцца, але фуфайкі, якія выдалі ў Комі, у нас забралі. Я застаўся ў кашулі і польскім мундзіры. На гэты раз нас павезлі ў бок Масквы. Там нас сустрэў генерал Войска Польскага і сказаў: "Вы свабодныя, вы будзеце цяпер у Войску Польскім".

## На Блізкім Усходзе

Праз Саратаў, Кіргізію, Краснаводск мы апынуліся на ўзбярэжжы Каспійскага мора. На параходзе "Жданаў" прыехалі ў іранскі порт Пахлеў, адтуль у Ірак. У цёплых краінах мы праходзілі курс рэабілітацыі. Пасля сталінскіх лагераў у Расіі нас адкормлівалі і папраўлялі наша здароўе. Як адчулі сябе лепш, пачалі падрыхтоўку да баёў. Не магу забыць тых часін, калі мы былі ў Палесціне. Іерусалім упрыгожаны дзесяткамі храмаў розных канфесій, вежы якіх ўзносяцца высока над панарамай горада. Я прайшоў па вуліцы, па якой крочыў у свой час Ісус Хрыстос, несучы на плячах цяжкі крыж. Памаліўся, папрасіў міласці божай...

## У Італіі

Праз Егіпет з горада Порт-Саід па Міжземным моры прыплылі ў італьянскі горад Таронта. Там і пачаліся баі. Быў 1942 год. З баямі мы прайшлі амаль усю Італію...

## Чырвоныя макі Монтэ-Касіна

Мушу заўважыць, што кожны, хто ведае гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, не можа не ведаць, што такое Монтэ-Касіна. У Расіі Сталінград, Курская Дуга, у Італіі – Монтэ-Касіна. Па сутнасці сваёй, гэта невялікі бальнеалагічны курортны горад на паўночны захад ад Фларэнцыі. У баях у раёне гэтага італьянскага гарадка палегла амаль уся 5-я польская дывізія. У гэтым вогненным пекле апынуўся і мой субяседнік. Глытаючы камяк, які распірае горла, Якуб Канстанцінавіч успамінае: "Забыць такое немагчыма. Я быў у палку лёгкай артылерыі. Перад намі выступіў англійскі генерал і сказаў: "Салдаты, вы не ведаеце, што чакае вас у гэтую ноч... У многіх дамах не дачакаюцца сыноў, братоў... З богам!".

Гэта была ноч на 10 мая 1944 года, калі ў ваколіцах горада цвілі чырвоныя макі. Гітлераўцы ўмацаваліся ў гарах, іх пазіцыя была больш зручная. Мы ж знаходзіліся на раўніне. Артпадрыхтоўку праводзілі толькі ноччу, пушкі закопвалі ў зямлю. У гэтую ноч я выпусціў з пушкі каля 800 снарадаў. Ствалы награваліся так, што на іх лілі халодную ваду, каб астудзіць. Горад быў поўнасцю спалены. Пасля таго, як нашыя танкі абышлі ворага з тылу і пайшлі на варожыя пазіцыі, наступіў карэнны пералом у баі. Нам удалося захапіць у палон камандуючага фронтам. Хоць і з вялізнымі стратамі і ахвярамі, перамогу мы ўсё ж вырвалі. Там мы і сустрэлі перамогу. Званілі ўсе касцёлы! Чуліся крыкі радасці, гучалі мірныя стрэлы.

## Пасля вайны

У Італіі Якуб Канстанцінавіч быў да 1947 года. На маё пытанне, што там рабіў, адказаў: "Нічога! Мы адпачывалі. Нам сказалі, што мы заслужылі адпачынак, і мы адпачывалі. Нас кармілі, мы былі апранутыя, мелі грошы ў кішэні. Я часта заходзіў у буфет, дзе працавала італьянская дзяўчына Марыя. Мы пазнаёміліся, а ў хуткім часе адчулі, што кахаем адзін аднаго. Да таго часу я ўжо нядрэнна валодаў італьянскай мовай. Быў запрошаны ў сям'ю маёй каханай, дзе нам далі згоду на наш шлюб. У корпусе згоду далі і мне. Але... лёс распарадзіўся зусім інакш. Праз тыдзень наш полк пераслалі ў Англію, а мы да гэтага часу не паспелі ўзяць шлюб. Бюракратычныя парогі пасольстваў так і не дазволілі нам злучыць лёсы.

У Англіі амаль два гады мы таксама адпачывалі. Я меў ваенную форму, цывільную выдалі таксама: паліто, шляпу. Як і ў Італіі , мы маглі застацца там жыць.

Час ад часу я ўстаўляю ў расповяд былога воіна і пакутніка пытанні:

— Вы былі ў многіх краінах, дзе больш за ўсё вам падабалася?

— У Англіі. Там мы не ведалі ні злодзеяў, ні бандытаў. Адчыненыя магазіны ноччу ніхто не рабаваў. Народ вельмі добры, высокая культура.



LEGITYMACJA

Nr. 20933.

upoważniająca do noszenia

KRZYŻA PAMIĄTKOWEGO

MONTE CASSINO

wydana na podstawie

Dekretu Naczelnego Wodza

L. dz. 3504/Pers. 44

z dnia 26 Lipca 1944

Rozkazem Dtwa 5 K.D.P.

Nr. 18 z dnia 22.II.45.

został nadany kanonier (stopień)

K O N O N Jakub (nazwisko i imię)

5 Wil.P.A.L. (oddział)

KRZYŻ PAMIĄTKOWY

MONTE CASSINO

Nr. 20933.

1.III. 1945

pieczęć

podpis d-cy

Пасведчанне да польскага «Памятнага крыжа Монтэ-Касіна», якім узнагароджаны Якуб Конан.

— Тады чаму вы там не засталіся?

Спужаўся англійскага надвор'я з бясконцым туманам і вадой. Тым больш, пасля цёплай і ласкавай Італіі. Увогуле, глупства дапусціў. У далейшым аб гэтым пашкадаваў.

## У далейшым

Кожны тыдзень з Ліверпуля адыходзіў параход у Гданьск. Нам сказалі, што, хто хоча, можа выехаць у іншую краіну. Спачатку я і не думаў выязджаць, але, калі быў аб'яўлены апошні параход, – я рашыўся. У Гданьску нас сустрэлі савецкія таварышы ў ваеннай форме. Праўда, на Бацькаўшчыну, у роднае Міхалова, я вярнуўся. Ажаніўся, пабудаваў дом. А 1 красавіка 1951 года як "вораг народа" з жонкай і 5-месячным сынам Колем на руках быў вывезены ў Іркуцкую губерню. Там прабыў 8 гадоў, будаваў абаронныя заводы... Былі там і палякі, якія ваявалі, як і Якуб, супраць фашыстаў. У далейшым палякаў забрала Польшча, а беларусаў і украінцаў не адпусцілі.

За працавітасць майго земляка ў Сібіры паважалі, ён даслужыўся нават да прараба на будаўніцтве. Пасля некалькіх лістоў у Маскву і Мінск пакутніку дазволілі выехаць на Радзіму. Цяпер Якуб Конан жыве ў пасёлку Беразінскае з сынам Мікалаем, нявесткай і ўнучкай. Тут ён пабудаваў яшчэ адзін (у сваім жыцці ужо трэці) дом, і, як ён сам зазначыў, усе тры дамы вокнамі на ўсход.

Пра мужнага змагара ў Польшчы не забыліся: выплачваюць пенсію, а ў 1994 годзе атрымаў запрашэнне ў Італію на 50-гадовы юбілей бітвы пад Монтэ-Касіна. Не паехаў па стану здароўя, хаця вельмі хацелася.

— Вы лічыце сябе шчаслівым чалавекам? — пытаюся напрыканцы размовы.

— Я шмат разоў глядзеў смерці ў вочы. І калі я думаю пра тыя жахі, якія давялося перажыць падчас сталінскіх лагераў, мне здаецца, што няшчасце было на кожным кроку. І ўсё ж... побач ішло шчасце. Мяркуйце самі, я ж не быў нават паранены ў той час, калі таварышы падалі мёртвымі. Я выжыў у лагерах, калі іншыя паміралі на хаду. Калі нас везлі ў бок Масквы, я быў чуць жывы ад страшэннай смагі, а потым напіўся вады ў нейкім возеры і атруціўся. Я ўпаў. У такіх стралялі. Падышлі і да мяне, каб зрабіць тое самае, але гасподзь адвеў іх рукі ад выстралу, і я застаўся жыць...

## Кашчунства

Я трымаю ў руках ваенны білет, які выдалі Якубу Канстанцінавічу ва Усольскім райваенкамаце Іркуцкай вобласці.

У графе "Звесткі аб удзеле ў Вялікай Айчыннай і іншай войнах", дзе трэба было адзначыць, у складзе якой часці, пасады і іншае, напісана: "Не участвовал" (!). І гэта дзікае кашчунства.

Калі я ўслых прачытала запіс Усольскага ваенкамата "не участвовал" (у вайне), Якуб Канстанцінавіч глядзеў пытліва на мяне запаўшымі вачыма і плакаў. Было зразумела: як пасля фізічных здзекаў цяжка яму цярпець вось такі маральны здзек – "не участвовал". Гэта пасля ўсяго перажытага і перанесенага!

Любоў КАРПОВІЧ.

# Монтэ-Касіна

**Монтэ-Касіна (Монтэ Касіна, Monte Cassino, Montecassino), узвышша ў Сярэдніх Апенінах, на поўдні Італіі. Вышыня 516 метраў над узроўнем мора. Узносіцца над ім кляштар Бенедыктынаў. У часы II сусветнай вайны разам з узвышшам Монтэ Каіра, Сан Анжэла і Паса Корна была асноўнай абарончай пазіцыяй нямецкай лініі Густава, якая засцерагала дарогу з Неапаля да Рыма.**



Фота з архіва «РГ».

Вайсковыя могілкі на Монтэ-Касіна, дзе знайшлі спакой сотні беларусаў.

У 1944 годзе разыгралася бітва за Монтэ-Касіна, званая таксама бітвай за Рым. 17–25 студзеня, 15–18 лютага, 15–25 сакавіка немцы адбілі тры наступленні войскаў саюзнікаў. У час супрацьстаяння не былі здабытыя ні узмоцненыя ўзгоркі, ні горад Касіна, які знаходзіцца ў падножжы узвышша. Амерыканскія, англійскія, новазеландскія і індыйскія падраздзяленні разам страцілі 54 тысячы салдатаў.

Генерал Ліс (Leese), які кіраваў 8-й брытанскай арміяй, звярнуўся да камандуючага 2-м польскім корпусам, генерала дывізіі Уладзіслава Андэрса, прапануючы здабыць узвышша Монтэ-Касіна. Генерал Андэрс, без кансультацый з галоўнакамандуючым, неспадзявана для саміх брытанцаў узяўся за выкананне задачы.

2-гі польскі корпус складаў 48 тысяч салдат, у тым ліку многіх выхадцаў з Заходняй Беларусі. У яго ўваходзілі 3 дывізіі карпацкіх стральцоў пад камандаваннем брыгаднага генерала Б.Духа, 5-й Крэсовай дывізіі пяхоты пад камандаваннем брыгаднага генерала Н.Суліка, 2-й танкавай брыгады пад камандаваннем брыгаднага генерала Б.Ракоўскага, групы артылерыі (10 палкоў артылерыі) пад камандаваннем брыгаднага генерала Р.Адзяжынскага.

Пасля абарончых дзеянняў над рэчкай Сангра (4 лютага – 29 сакавіка 1944 года) 2-гі корпус перакінулі у раён Монтэ-Касіна, які абараняла элітная нямецкая 1-я дэсантная дывізія, а таксама высакагорныя палкі. Першае наступленне 2-га корпусу (11–12 мая), адбітае немцамі, прынесла вялікія страты, але зрабіла магчымым для брытанцаў, якія націскалі ў даліне Ліры, пераламаць нямецкую абарону.

17 мая 2-гі корпус аднавіў наступленне, якое закончылася здабыццём ланцуга ўзгор'еў і ўстанаўленнем сувязі праз патрулі з англійскай 78-й пяхотнай дывізіяй. 18-га мая ранішнімі гадзінамі патруль 12-га палка польскіх уланаў пад камандаваннем падпаручніка К.Губерта заняў пакінуты немцамі кляштар.

Разам са здабыццём Монтэ-Касіна нямецкая лінія Густава была пераламаная. У бітве пад Монтэ-Касіна 2-гі корпус страціў 924 забітымі, 2930 – параненымі і 345 – зніклымі без вестак. У Монтэ-Касіна знаходзяцца польскія вайсковыя могілкі, на якіх знайшлі свой пакой таксама шматлікія сыны Беларусі розных нацыянальнасцяў – беларусы, палякі, яўрэі... Сёння вядома, што ў баях пад Монтэ-Касіна загінулі 264 выхадцы з Заходняй Беларусі, якія ваявалі пад камандаваннем легендарнага генерала Андэрса, які таксама пахаваны на гэтых могілках.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Генерал Уладзіслаў Андэрс



Уладзіслаў Андэрс.

**Уладзіслаў Андэрс (Wladyslaw Anders) (1892, г. Блоне каля Варшавы–1970), польскі ваенны і палітычны дзеяч. Вучыўся ў ваенным тэхнічным вучылішчы ў Рызе (1911–1914). З 1917 у І польскім корпусе ў Расіі. З 1918 у Войску Польскім. Удзельнік Велікапольскага паўстання 1918–1919, а таксама польска-бальшавіцкай вайны 1919–1921. У 1923 скончыў Вышэйшае ваеннае вучылішча ў Парыжы. У час дзяржаўнага перавароту ў маі 1926 камандзір штабу ўрадавых войскаў, якімі камандаваў генерал Мальчэўскі. У 1928 – 1937 камандаваў Валынскай, затым (да 12.12.1939) Наваградскай кавалерыйскай брыгадай, з якой увайшоў у склад арміі "Модлін" генерала Пшэджэмірскага-Круковіча.**

З верасня 1939 года – у савецкім палоне, арыштаваны НКУС, знаходзіўся ў вязніцах у Львове і Маскве. Вызвалены пасля падпісання 30 ліпеня 1941 года польска–савецкага дагавора. У 1941–1942 камандуючы польскай арміяй у СССР, у 1942–1943 – польскай арміяй на Усходзе, затым, у 1943 – 1946 – II польскага корпусу, з якім ваяваў пад Монтэ-Касіна.

У лютым 1945 году востра крытыкаваў ялцінскія дамоўленасці, канферэнцыю ў Ялце. З лютага да мая 1945 года па загадзе генерала Камароўскага арыштаваны. Затым выконваў абавязкі Галоўнакамандуючага.

27 верасня 1946 года пазбаўлены польскага грамадзянства часовым урадам Польшчы. З 1946 па 1954 выконваў тытульную функцыю Галоўнакамандуючага і Галоўнага інспектара Польскіх Узброеных Сіл на Захадзе. Адзін з кіраўнікоў польскай эміграцыі. Аўтар мемуараў. У тым ліку аб Катыні, дзе згадваецца таксама трагедыя ў Вілейцы ў ліпені 1941 года. Андэрс быў адным з першых, хто ўголас расказаў аб злачынствах Саветаў у Вілейскай турме і пры яе эвакуацыі ў 1941-м годзе з Вілейкі ў Разань праз Барысаў: «Падчас эвакуацыі на Усход ніводнага з вязняў не пакінулі на дарозе жывым. Хто быў слабы і не мог ісці далей, той загінуў ад кулі або штыха канваіра».

Генерал Андэрс пахаваны на польскіх вайсковых могілках на Монтэ-Касіна.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Нашы землякі расказваюць пра Монтэ-Касіна

**Вельмі важныя звесткі аб Монтэ-Касіна пакінуў пасля сябе выхадзец з-пад Ілы, удзельнік тых падзей, пісьменнік Пётра Сыч. У 1965 годзе ў Мюнхене выйшла незакончаная мастацка–дакументальная аповесць Сыча "Сьмерць і салаўі". Выданне стала падзеяй у беларускай літаратуры. Роўна праз трыццаць год аповесць перадрукаваў ў Беларусі часопіс "Полымя". Газетны фармат не дазваляе азнаёміць чытачоў з гэтым творам. Між тым, на нашу думку, вельмі цікава будзе прачытаць уступ да публікацыі ў "Полымі", аўтарам якой была Рагнеда Аляхновіч. З вытрымкамі гэтага ўступу мы знаёмім вас сёння.**

Апавяданне Пётры Сыча «Сьмерць і салаўі» прысвечана адной з вызначальных стратэгічных аперацый другой сусветнай вайны — бітве пад Монтэ-Касіна ў студзені–траўні 1944 года. Перамога ў гэтай бітве адкрыла саюзнікам дарогу на Рым, стварыла ўмовы для вызвалення Італіі. На Беларусі, як і ўвогуле ў савецкай гісторыяграфіі мінулай вайны, бітва пад Монтэ-Касіна замоўчвалася. Так, напрыклад, у артыкуле БелСЭ «Другая сусветная вайна» (т. 4, с. 278—281) падзеі пад Монтэ-Касіна нават не згадваюцца. А між тым, там ваявалі тысячы беларусаў — салдат і афіцэраў другога корпуса генерала Андэрса.

Цяжкім і пакутлівым быў шлях гэтых людзей да Монтэ-Касіна. Напачатку другой сусветнай вайны, пасля разгрому Польшчы гітлераўскай Германіяй у верасні 1939 года і далучэння Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да СССР, на шахтах Данбаса і Крывога Рога, на будаўніцтве шасейных дарог, аэрадромаў, чыгунак з'явіліся «польскія палонныя». Савецкі Саюз не ваяваў з Польшчай, аднак ваеннапалонныя былі, хоць афіцыйна гэта не прызнавалася. І была Катынь. Цягнулі лямку палонных і беларусы, якія трапілі ў польскае войска па мабілізацыі. З восені 1939 года і ў 1940—1941 гадах у Заходняй Беларусі пракацілася хваля арыштаў органамі НКУС нацыянальнай інтэлігенцыі. Асуджаных невядома за што ссылалі ў канцлагеры Гулага на Поўначы і ў Сібіры. Сюды ж вывозілі «раскулачаных» сялян. Падлічана, што ў 1939—1941 гадах з «крэсаў усходніх» было дэпартавана 2 мільёны грамадзян былой Польшчы.

Летам 1941 года, калі вайна запалала на тэрыторыі Савецкага Саюза, адносіны да зняволеных «палякаў» змяніліся. Пасля падпісання ў канцы ліпеня савецка-польскага дагавора ў СССР распачалося фармаванне польскага войска пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса. У лагерах ваеннапалонных дзейнічалі прызыўныя камісіі. Ішло масавае вызваленне польскіх грамадзян з месцаў зняволення.

Пытанне аб колькасці беларусаў, якія ваявалі супраць фашысцкіх захопнікаў у Заходняй Еўропе, галоўным чынам у польскіх вайсковых фармаваннях, неаднойчы ўзнімалася ў беларускай эміграцкай прэсе. У 1957 годзе газета «Бацькаўшчына», якая выходзіла ў Мюнхене, спасылаючыся на словы польскага міністра Тарноўскага, пісала, што ў другім польскім корпусе налічвалася 12 000 беларусаў. Шмат увагі праблеме ўдзелу беларусаў у другой сусветнай вайне аддае «Часапіс Беларускіх Вэтэранаў «Зважай», які выдае ў Канадзе Кастусь Акула. У першым нумары гэтага часопіса за 1978 год было апублікавана цікавае статыстычнае даследаванне Віктара Сянькевіча, які жыве ў ЗША, «Пра ўдзел беларусаў на заходніх франтох другой сусьветнай вайны». На падставе аналізу выдадзенага ў 1952 годзе ў Лондане Гістарычным Інстытутам імя генерала Сікорскага «Сьпісу жаўнераў Польскіх Узброеных Сілаў на чужыне, загінуўшых або памерлых у 1939-1946 гг.», даследчык прыйшоў да высновы, што ў польскіх вайсковых злучэннях у Заходняй Еўропе, пераважна ў Італіі, ваявалі 30 867 беларусаў. «Найбольш, аднак,— піша др. Сянькевіч,— нашых сурodзічаў было ў арміі, якой камандаваў ген. Андэрс. І гэта зусім зразумела, бо гэта былі жаўнеры, якія прайшлі праз канцэнтрацыйныя лягеры і турмы Савецкага Саюзу і якія пакінулі СССР дзякуючы польска-савецкаму дагавору з 1941 году, на падставе якога ген. Андэрсу ўдалося вывесьці з СССР 115000 польскіх грамадзян».

Але вернемся ў 1941 год. Першыя дывізіі арміі Андэрса размяшчаліся за Волгай, каля Бузулука і Таціпчава. Тут у абозах жылі і сем'і тых, хто ўступіў у польскае войска. Паланенне ўсё прыбывала. У лістападзе гэтая маса вайскоўцаў і цывільных была накіравана ў рэспубліці Сярэдняй Азіі. Людзі гінулі ад эпідэмій, марозаў, спёкі, голаду. Андэрс не збіраўся ваяваць на савецкіх франтах і прыклаў шмат намаганняў, каб вывесці сваё войска з тэрыторыі СССР. Гэта яму ўдалося, калі напачатку 1942 года Англія была вымушана перакінуць частку сваіх узброеных сіл з Сярэдняга Усходу ў Індыю на змаганне з японцамі. Месца англійскіх дывізій заняў другі польскі корпус (так сталі называць армію Андэрса ў Іране).

Іран, Ірак, Палесціна, Егіпет, Італія — такі шлях прайшлі жаўнеры другога корпуса да Монтэ-Касіна. Прайшоў гэты шлях і аўтар апавядання «Сьмерць і салаўі». Вельмі скупыя звесткі пра жыццё яшчэ аднаго таленавітага беларуса, творчы дар якога не раскрыўся ў поўнай меры. Пётра Сыч паходзіў з-пад Ілы на Вілейшчыне. Скончыў польскую гімназію ў Вілейцы, працаваў у грамадзянскіх установах Вілейскага павета, служыў у польскім войску. Але, як сведчыць сябра пісьменніка і рэдактар кніжкі «Сьмерць і салаўі» Вінцэнт Жук-Грышкевіч ва «Успамінах аб Пётру Сычу», «ні польская школа, пачатковая й сярэдняя, ні асяродзьдзе польскіх урадаўцаў, ні нават польская афіцэрская школа й служба ў польскай арміі не змаглі вырваць ці зламаць беларускасьць Пётры Сыча. Яна моцна сядзела ў ім і выявілася вялікім патрыятызмам у ягонай шматгадовай, ня раз герайчнай, беларускай рабоце, як толькі ён знайшоў сваю праўду, беларускую праўду».

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР Пётра Сыч быў арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на зняволенне ў канцлагеры. Шмат хвараў, пакутаваў ад невыносных умоў зняволення і знясільваючай працы ў адной з будаўнічых калон Пячлагу (канцэнтрацыйны лагер на Пячоры, Комі АССР). Выжыў, мусіць, таму, што яго ўрэшце прызначылі мастаком, маляваў партрэты лагернага начальства. У другім корпусе Пётра Сыч служыў у пяхоце, меў ранг паручніка. Увесь час ваяваў на перадавой, быў чатыры разы паранены.

Пасля вайны другі корпус перавялі ў Англію і паступова расфармавалі. Тут Пётра Сыч браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларусаў, якія засталіся на эміграцыі. Тыя ж вайскоўцы з корпуса Андэрса, якія вярнуліся на Беларусь, былі зноў рэпрэсаваныя. З 1954 года і да апошніх сваіх дзён Пётра Сыч жыў у Мюнхене, быў супрацоўнікам газеты «Бацькаўшчына», а таксама беларускай секцыі радыё «Вызваленне», выдаваў гумарыстычны часопіс «Шарсьцень».

«Меў багатую, чуллівую мастацкую натуру, адораную рознымі здольнасцямі. Быў ён пісьменнікам, і публіцыстам, і паэтам, і маляром — з задаткамі да скульптуры».

**Рагнеда АЛЯХНОВІЧ,**
**«Полымя», №8, 1995 год.**

 



## ВІНШАВАНКІ

Віншуем з юбілеем **Ірыну Уладзіміраўну Клімовіч** з Любані! Жадаем здароўя, шчасця, удачы, усіх зямных даброт. *Сям'я Папчанкавых.*

Мы цябе віншуем, мы табе жадаем усяго добрага, мы цябе помнім і чакаем хутчэй добрую нашу дадому. *Твае дзеці Уладзімір і Святлана Бобрык.*

Віншуем з 70-годдзем **Ефрасінію Аляксандраўну Русакевіч**! Жадаем моцнага здароўя, доўгіх год жыцця. *Зоя, дзеці.*

Любую **матулю** з днём нараджэння! Моцнага здароўя, шчасця, душэўнага спакою, аптымізму. *Ілона і яе сям'я.*

Віншуем з днём нараджэння **Раісу Рыгораўну** і **Міхаіла Іванавіча Бурачонкаў** з в. Мясата! Жадаем здароўя, шчасця. *Дзеці, зяць, унукі.*

Віншую **Вольгу Віржык** з 18-годдзем! Жадаю здароўя, кахання, удачы, добрага настрою і ўсяго найлепшага ў жыцці. *З павагай Эдуард.*

Любімую маму і бабулю **Ірыну Станіславаўну Белую** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту. *Дзеці, унукі.*

Дарагую сястрычку і цёцю **Ніну Іванаўну Няверу** віншуем з 55-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця і сямейнага дабрабыту. *Родныя.*

Віншуем **Юлію Галавач** з днём нараджэння! Пусть будет все то, что ты хочешь сама, любви тебе, веры, надежды, добра. *Аксана, Жэня, Данілка.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**31 студзеня – 2 лютага. "Нястрымаьныя"** – у 17.00, 19.00 і 21.00. 1 і 2 лютага – і ў 15.00. Яны імклівыя і няўлоўныя, дужыя і бясстрашныя! Для іх не існуе непрыступных тайнікоў і сейфаў! Задача паліцыі – злавіць іх. Але хто пераможа?

**3-9 лютага. "Гары Потэр і філасофскі камень"**, ЗША, прыгоды – у 15.00, 17.30 (6 лютага – у 17.30 ільготны).

**"Амазонкі і гладыятары"**, ЗША-Германія – 19.50 і 21.20.

Дыскатэка 14±2. Прыходзьце ў 19.00 кожную суботу. Працуе бар. Група з 12-і чалавек – 13 вядзе бясплатна.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.



## ЗНАЁМСТВЫ

Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з прыстойнай жанчынай ад 43 да 52 год. Жыллём забяспечаны. Маладзечна-1, п/п МС 05919556.

Жанчына 36/160/70 пазнаёміцца з мужчынам без шк/зв. Ашмяны-1, п/п КН 0071958.

Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і. Пра сябе: 41/170/68, без дзяцей. Валожын, галоўпаштамт, п/п МС 0285677.

Жанчына прыемнай знешнасці 36/155/80 пазнаёміцца з мужчынам без шк/зв. Ашмяны-1, п/п КН 0858557.

Пазнаёмлюся з мужчынам для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 60/170/70. Маладзечна-6, п/п МС 0560382.

# Комплекс дзейнічае

**ВІЛЕЙКА. Культурна-спартыўны комплекс, адчынены 22 студзеня ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея", з'яўляецца ўнікальным аб'ектам па ўкладзеных сродках, крыніцах фінансавання і выкарыстаных тэхналогіях.**

На ўзвядзенне комплексу патрацілі амаль 3 мільярды рублёў. Фінансавалася будаўніцтва з беларускіх, японскіх, нямецкіх крыніц. Асноўная частка сродкаў паступіла ад камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Дапамаглі і партнёры "Надзеі": Чарнобыльскі дзіцячы фонд Японіі і нямецкі фонд Ханца і Ірмгард Мюлераў.

Будаваўся комплекс па індывідуальным праекце інстытута «Мінскграмадзянпраект», які распрацаваны з удзелам нямецкага архітэктара Курта Дэклера. На працягу першых двух гадоў кансультантам па будаўніцтву працаваў нямецкі інжынер-будаўнік Энгельберт Шмідт.

Асаблівасцю культурна-спартыўнага комплексу з'яўляецца прымяненне энергаашчаджальных тэхналогій і матэрыялаў: для асвятлення выкарыстоўваюцца эканамічныя лямпы, а пры будаўніцтве бралі цеплазберагаючыя матэрыялы.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Судзяць старшыняў

**МЯДЗЕЛ. У судзе і не прыпомнілі, каб за апошнія гады ў раёне за службовыя злачынствы прыцягвалі да адказнасці кагосьці з кіраўнікоў калгасаў. А тут за некалькі месяцаў судзілі двух былых старшыняў калгасаў.**

Адзін з іх — Уладзімір Валасевіч з "Пераможца"— аплаціў навучанне дачкі з калгаснай касы ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі. Выкарыстаўшы службовае становішча, без заключэння дагавора, ён пераліч ў устанoве 661800 рублёў. Улічваючы, што урон абвінавачаны пакрыў і раней да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся, суд раёна прыгаварыў У. Валасевіча да двух год пазбаўлення волі (пакаранне не будуць прыводзіць у выкананне на працягу года).

Іван Гайдаржы стаў кіраваць калгасам "Канстанцінава" ў сакавіку 2002 года. І адразу пасадзіў для сябе паўгектара бульбы на калгасным полі, не плацішы за ўгнаенні, карыстанне тэхнікай, 2,8 тоны насення (падлічаныя страты — 496100 рублёў). Ды і тэхніка на яго ўчастку працавала ў першую чаргу. Як бульбу ўбралі, то частку яе праз людзей прадаваў у Кабыльніку. Суд улічыў шчырае раскаянне, добраахвотнае пакрыццё ўрону і прызначыў пакаранне І. Гайдаржы ў выглядзе двух год папраўчых работ з утрыманнем 20 працэнтаў заробку ў даход дзяржавы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **ВЫСТАВЫ**

## Адпачніце душой

**22 студзеня ў турклубе "Пілігрым" па вуліцы Міхала Забэйды-Суміцкага, 4 адчынілася выстава акварэльных работ Сяргея Шафрановіча.**

Сяргей сталічны мастак, сябра Саюза мастакоў РБ, закончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, дзе цяпер і працуе выкладчыкам на кафедры малюнка, жывапісу і скульптуры. Яго работы экспануюцца ў музеі беларускага выяўленчага мастацтва, выставачнай зале Міністэрства культуры, музеі міліцыі, у Бягомльскім раённым музеі. Ёсць яны і ў асабістых калекцыях рэспублікі і за мяжой – у Ізраілі, ЗША.

З членамі турклуба ён пазнаёміўся ў 1994 годзе. Сам заядлы турыст. За яго плячыма ёсць узыходжанне на Эльбрус (вышэйшая гара Еўропы, 5621). Вельмі цікава, што ўсе работы выкананыя за апошнія два гады ў паходах па Каўказе, Цянь-Шані і Хібінах.

Выставу можна наведаць па серадах з 16 да 20 гадзін.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

# Што і як рабіць у лютым

### Работы садавода

У апошнія гады ў лютым амаль няма снегу, але маразы ўсё ж бываюць моцныя. Часам сонца так награвае дрэвы, што кара іх ажывае, пачынае вегетацыю, а ноччу не вытрымлівае рэзкага пахаладання і адмірае. У выніку ўтвараюцца невялікія шчыліны — сонечна-цеплавыя абпальванні. Вада, якая замярзае ў гэтых шчылінах, разбурае кару і нават драўніну. Каб гэтага не здарылася, у цёплыя дні патрэбна ўзнавіць асеннюю пабелку дрэў.

Калі доўга працягваецца адліга і шмат стаіць талай вады, яе неабходна спусціць. Асабліва шкодзіць застаялая вада пасадкам суніц, карані якіх ад недахопу кіслароду могуць загінуць. Вельмі баяцца марозу пасаджаныя восенню дрэўцы або прыкапаныя саджанцы. Таму пры адсутнасці снегу трэба ўцяпліць торфам, сухой травой або перагноем прыствольныя кругі новых пасадак. На прыкапаныя саджанцы накідаць снегу, а калі яго няма — сухога галля.

Выявіць падмерзлыя галіны і падрэзаць іх, пакуль не набрынялі пупышкі, раны залячыць. Гэта ўмацуе дрэвы.

Абрэзку рабіце пасля поўні – 19-22 лютага. Дрэвы ў кватэрах або іншых памяшканнях прышчэпліваце пасля маладзіка – 13, 14 лютага.

### Работы агародніка

Асабліва непакояць агароднікаў у лютым агуркі і памідоры, якія растуць у цяпліках або на падаконніках. Калі ў студзені не прышчыпнулі агуркі над 5-6 лістом, зрабіце гэта ў лютым. У далейшым агуркі прышчыпваюць над кожным другім або трэцім лістом, падвязваюць да апоры.

З 1 да 17 лютага Месяц расце, а з 8 да 28 убывае. Неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры дні – 1, 2, 15-17 і 27, 28 лютага. Праводзьце ў гэтыя дні апрыскванне і апрацоўку раслін супраць хвароб і шкоднікаў. Знішчайце пустазелле.

Пасейце агуркі на расаду; салату, кроп, пятрушку, сельдэрэй на зеляніну (на падаконніку або ў цяпліцы) 3, 4, 8, 13 і 14; радыску, моркву і пятрушку для атрымання вітамінных караняплодаў 19, 20 і 25, 26; памідоры на расаду для веснавой цяпліцы на біяпаліве (калі такая ёсць у агароднікаў) і для вырошчвання на балконе 3, 4, 8, 13 і 14 лютага.

Спрыяльныя для падкормкі і паліву дні 2, 13, 14 і 21, 22 лютага, зеляніну ўбірайце 5, 6, 8, 9, 13, 15 і 16, а караняплоды радыскі, морквы, пятрушкі – 19-22 і 25-27 лютага.

Праверце, як захоўваецца бульба і іншая агародніна. Калі яна знаходзіцца ў падвале або іншым даступным месцы, перабярыце яе, выкіньце загніўшую. Закупіце насенне, якога не хапае, праверце яго ўсходжасць, падрыхтуйце да сяўбы.

**Альбін МАКАРЭВІЧ.**

■ **ІМЯНІНЫ**

31 студзеня
**Праваслаўныя**: Апанаса, Кірылы.
**Каталіцкія**: Марцэліны, Яна.
2 лютага
**Праваслаўныя**: Рымы, Яўціхія, Яфіма.
**Каталіцкія**: Людмілы, Марыі, Міраслава.
3 лютага
**Праваслаўныя**: Анастасія, Максіма, Яўгена.
**Каталіцкія**: Блажэя, Іпаліта.
4 лютага
**Праваслаўныя**: Анастасія, Гаўрылы, Георгія, Івана, Лявона, Мануіла, Пятра, Фёдара.
**Каталіцкія**: Веранікі, Андрэя, Юзафа.
5 лютага
**Праваслаўныя**: Генадзя, Клімента, Паўліна.
**Каталіцкія**: Агаты, Адэлаіды, Ізыдара.
6 лютага
**Праваслаўныя**: Ксеніі, Анастасія, Цімафея.
**Каталіцкія**: Дароты, Багдана, Паўла.

■ **ТВАЁ ІМЯ**

# Людміла

Значэнне і паходжанне: мілая людзям (слав.).

Гэтае імя падобнае на ўсплеск вады ад упаўшага каменя і кругі, якія разыходзяцца па паверхні возера. Так і ў імені Людміла звязаны ў адзінае цэлае два разнародныя пачаткі. Лёгка можна ўбачыць, што першая частка слова валодае дастатковай цвёрдасцю, у той час як заканчэнне вельмі і вельмі мяккае. Цікава, што некаторыя Людмілы свядома карыстаюцца дваістасцю імя, у залежнасці ад абставін прадстаўляюцца то Людай, то Мілай. Яшчэ імя падобнае на шалі, якія хочуць адначасова ўраўнаважыць і мяккасць, і цвёрдасць характару.

Такі пошук раўнавагі звычайна прыводзіць да таго, што Людміла з дзяцінства пачынае адрозніваць аналітычным складам розуму, які ў значнай ступені маскіруе яе пачуццёвасць. Якія б эмоцыі не апанавалі Люду, яна ўсё роўна стараецца выбраць з усіх варыянтаў паводзін найлепшы па яе маркаванні. Нярэдка гэта атрымліваецца, нярэдка не, але ўсё роўна нервовыя зрывы Людмілы рэдка бываюць моцнымі. Яна можа пашумець, пакрыўдзіцца, але дастаткова хутка возьме сябе ў рукі. Пры гэтым Люда не пазбаўлена какецтва, што таксама з'яўляецца вынікам яе лагічнасці і развітага самалюбства.

Часта ўжо з малых гадоў Люда ведае, што ёй трэба, што не, а таксама, што можна і што нельга. Іншы раз яна ўжо з дзяцінства пачынае сур'ёзна рыхтаваць сябе да сямейнага жыцця і не дзіва, калі гэта прывядзе да ранняга шлюбу. Тут, праўда, вельмі хутка можа высветліцца, што далёка не ўсё ў жыцці можна спланаваць, асабліва, калі размова ідзе аб чалавечых ўзаемаадносінах. Часта Людміла пачынае прымяняць свае разумовыя здольнасці для таго, каб падагнаць характар мужа пад сваё ўяўленне аб тым, якім павінны быць яе мужчына. Не дзіва, калі з боку мужа гэта выклікае пярэчанне аж да адкрытага канфлікту. І тут варта нагадаць, што шчасце нельга спланаваць, паколькі шчасце – усяго толькі паўната пачуццяў і давер да Лёсу і да блізкіх людзей. Калі гэтага няма, то як бы ні вёў сябе муж, яна ўсё роўна застанецца незадаволенай.

Нярэдка Людміла хоча рэалізаваць сябе ў кар'еры. У гэтым ёй могуць дапамагчы такія якасці, як уменне быць настойлівай і дыпламатычнай. Хаця, канешне, лепш давяраць сваім пачуццям, чым розуму.

■ **ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**

## Свініна з агароднінай

**500 г свініны, 1 шклянка гароху, 0,5 шклянкі смятаны, 0,5 сталовай лыжкі тамата-пюрэ, 1 сталовая лыжка пшанічнай мукі, 2 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 2 цыбуліны, 2 морквы, 1 корань пятрушкі, 1/4 шклянкі булёну, соль, перац, лаўровы ліст.**

Падрыхтаваную свініну нарэзаць дробнымі кубікамі, пасаліць, абсыпаць пшанічнай мукой і абсмажыць у добра нагрэтым тлушчы ці масле да румянага колеру. Гарох перабраць, прамыць і адварыць у нясоленай вадзе да паўгатоўнасці. Цыбулю, моркву, пятрушку пачысціць, дробна нарэзаць і змяшаць з молатым перцам, соллю і лаўровым лістом. Каструлю змазаць растопленым сметанковым маслам, пакласці слаямі палавіну падрыхтаванай агародніны, затым падсмажаную свініну, на яе – гарох, а зверху – астатнюю частку агародніны. Усё заліць булёнам, зварваным з касцей, тушыць 25 мінут, пасля чаго заліць змятанай, змешаным з пасераваным на сметанковым масле таматам-пюрэ і паставіць у духоўку на 10 хвілін.

**Купон 5**

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

 

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Як падняць сабе настрой?



**Сяргей Ласіца, студэнт:**

— Іду да сяброў, гуляю па знаёмых месцах. Абавязкова іду на дыскатэкі. Танцую з дзяўчатамі. Пажадана, каб іх было пяцёра.



**Дзмітрый Шыцік, шафёр:**

— З'есці марожанае. Ведаю, што гэта даказана вучонымі. У мяне ж заўжды добры настрой. Для яго падтрымання ем марожанае 2 разы на тыдзень. Купляю вялікае 200-грамовае марожанае "Сямейнае", дзялюся з жонкай – і абое ў добрым настроі.



**Аляксандр Бажко, медык:**

— Саджуся ў машыну і ганяю з хуткасцю 150 км/гадз. Тады падымаецца адрэналін у крыві. А гэта дапамагае быць у тонусе.



**Сяргей Сцелікаў, беспрацоўны:**

— Не трэба яго псаваць. Я, напрыклад, амаль заўсёды ў добрым настроі. Калі яго ўсё ж такі сапсавалі, можна кніжку добрую пачытаць, кіно цікавае паглядзець, з сябрамі пагутарыць.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 31.1 дзень | 31.1 вечар | 1.2 дзень | 1.2 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 729 | 732 | 736 | 737 |
| тэмпература паветра, °С | -7 | -11 | -12 | -17 |
| вільготнасць паветра, % | 96 | 97 | 96 | 98 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 1-3 | 1-3 |

| Вільня | 31.1 дзень | 31.1 вечар | 1.2 дзень | 1.2 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 738 | 740 | 745 | 745 |
| тэмпература паветра, °С | -8 | -11 | -9 | -13 |
| вільготнасць паветра, % | 88 | 93 | 97 | 92 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 1-3 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **Колькі кіламетраў ад Астраўца да Ілы?** А ад Валожына да Svіра? Карта адлегласцей паміж населенымі пунктамі нашага рэгіёну, спіс транзітных аўтазапраўачных станцый ў рубрыцы аўта-мота.
- **Паскрэбачак для малодшай дачкі.** Як пяклі хлеба у нашых вёсках яшчэ зусім нядаўна. Успаміны Фаіны Драгун з-пад смаргонскага Вішнева.

## Гараскоп 3 – 9 лютага



**Авен (21.03–20.04)**

Нецярпенне і непрымірымасць могуць прывесці да сварак і эмацыянальных зрываў. Можа здавацца, што вы блізкія да мэты, але нечакана з'яўляюцца дадатковыя перашкоды, дробныя справы, перарываюцца патрэбныя кантакты. Змяненні на рабоце не прыносяць чаканых вынікаў. Трэба перачакаць гэты перыяд, цяпер абставіны непадуладныя вам.



**Цялец (21.04–21.05)**

Калі фінансавыя здзелкі не прынеслі буйной сумы грошай, рэкамендуем скласці індывідуальны гараскоп з прагназаваннем. Тым самым вы зможаце пазбегнуць непатрэбнай рызыкі. Цяльцы, народжаныя ў перыяд з 28 красавіка па 1 мая, могуць апынуцца ў заблытаных сітуацыях. Нейкі час вам прыйдзецца больш складана рэалізоўваць свае планы і мары, хаця бачных перашкод можа і не быць.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Жаданне змяніць меркаванне навакольных можа прывесці да спрэчак і сварак. З-за таго, што вашы жаданні будуць ісці ўразрэз з грамадскім настроем, можа з'явіцца няўпэўненасць ў правільнасці выбранага шляху. Калі будзеце несвоечасова праяўляць ініцыятыву, можаце нажыць сабе ворагаў. Каб вытрымаць цяжкасці гэтага перыяду, больш часу знаходзьцеся з роднымі і блізкімі. Зносіны з імі прынясуць вам радасць і прыдадуць аптымізму. Дзіцячае сяброўства, заснаванае па поўным ўзаемаразуменні, можа перарасці ў каханне. Звярніце ўвагу на знаёмых брата ці сястры. Сярод іх можа быць прэтэндэнт на вашы руку і сэрца.



**Рак (22.06–23.07)**

У першы тыдзень месяца Ракі схільныя будуць займацца грашовымі справамі, якія звязаныя з мастацтвам, музыкай, забавамі. У гэты час у Ракаў узмацніцца сексуальная энергія. Партнёры па шлюбу стануць для вас загадкавымі. Вы будзеце бачыць у іх нейкую тайну і зробіце вывад, што мала ведаеце гэтага чалавека, нягледзячы на пражытыя гады. Гэта сітуацыя разбудзіць у вашай душы рамантыку, адкрые новую старонку ў шлюбных адносінах. На здароўі Ракаў могуць адбівацца дурныя харчовыя прывычкі.



**Леў (24.07–23.08)**

У Львоў цяпер эмацыянальны пад'ём. Вы з вялікім аптымізмам праявіце высакароднасць сваёй душы, будзеце па-добраму і з разуменнем адносіцца да навакольных. Лёгка будзе наладжваць гарманічныя адносіны ў дзелавых, грамадскіх і рамантычных адносінах. Гэты час можа быць натхняльным для мастакоў і музыкантаў, яны могуць атрымаць культурную падтрымку і прызнанне.



**Дзева (24.08–23.09)**

Грошы будзеце зарабляць напружанай працай. Прыйдзецца прыкласці для гэтага максімум намаганняў. Не рабіце ніякіх рызыковых укладанняў, не знаходзьцеся ў месцах вялікага зборышча людзей, а таксама ў забаўных установах: там для вас можа скласціся незадавальняючая сітуацыя, звязаная са стратай буйной сумы грошай. У Дзеў, якія займаюцца палітыкай, чакаецца жорсткая барацьба за ўладу, за сваё месца ў грамадскім жыцці. Папулярнасць і прызнанне прыйдуць да вас праз шырокае кола знаёмых у ходзе паездак і сустрэч. Ва ўсіх справах для дасягнення чакаемага выніку неабходна памяркоўнасць, падпарадкаванне законам і кантроль сітуацыі.



**Шалі (24.09–23.10)**

Дробныя здзелкі, сямейны бізнес, медыцына і садаводства прынясуць вам прыбытак. Таксама папаўненне даходаў можна атрымаць з устаноў закрытага тыпу. Ёсць верагоднасць, што ўплывовая сваячка складзе пратэкцыю і вам удасца прадэманстраваць творчыя напрацоўкі замежным калегам ці проста прыезджым людзям, якія зацікавяцца вашай тэмай. На рабоце сітуацыя паступова мяняецца і вырысоўваюцца контуры не зусім прыемных перспектыў. Аднак змена работы не прывядзе да змены абставін. Спакойна працуйце і павышайце свой прафесійны ўзровень – эмацыянальная рэакцыя можа падарваць вам аўтарытэт і часова спыніць паступленне грошай. Прымайце гэты перыяд як умову для закалкі характару.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

У гэты перыяд вам трэба ўдзяліць больш увагі сваякам, суседзям, вучобе. У адносінах са сваякамі і суседзямі могуць ўсплысці старыя, незавершаныя справы ці ўзнікне паўторная сітуацыя мінулага сумеснага супрацоўніцтва. Так ці інакш, вы будзеце адчуваць падтрымку з іх боку. Палепшыць сваё матэрыяльнае становішча можна ў выніку дзелавога супрацоўніцтва з сумеснымі прадпрыемствамі, продажу прадметаў мастацтва ці раскошы.



**Стралец (23.11–21.12)**

У прафесійных справах у гэты перыяд варта дзейнічаць разам з блізкімі па духу людзьмі. Ідэі, звязаныя з тым, дзе і як зарабляць грошы, будуць мець поспех і папраўяць матэрыяльнае становішча. Для тых, хто збіраецца павысіць узровень сваёй адукацыі, наступіў самы спрыяльны перыяд. Узрастае працаздольнасць, вы адчуеце прыліў новых сіл і справіцеся з усім даволі хутка і паспяхова.



**Казярог (22.12–20.01)**

Важна спалучаць старое з новым і пазбаўляцца ад таго, што перастала прыносіць карысць і аджыло. Скарыстайцеся перавагамі, якія даюць вам новыя людзі, новыя дасягненні навукі і тэхнікі. У гэтыя дні вы атрымаеце задавальненне ад адукацыйных спраў. Заняткі з дзецьмі будуць навяваць добрыя ўспаміны аб уласным дзяцінстве. Не ватра давяраць снам.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Унутраная адчуванне, што вас не цэняць, хочуць навязаць адказнасць, стварае цяжкасці ва ўзаемаадносінах з дзелавымі партнёрамі. Тым не менш, сітуацыя спрыяльная для падпісання дагавораў, заключэння шлюбу, завяршэння судовых працэсаў. У гэты перыяд некаторыя сутыкнуцца з пачуццём натхнёнага кахання, але не ўсім яно прынясе спакой. Пад'ём духоўных сіл садзейнічае абнаўленню пачуццяў і большай упэўненасці ў сабе.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Неабходнасць выказаць грамадству сваю пазіцыю можа поўнасцю завалодаць вамі. Чакаецца шмат сустрэч, размоў. Вельмі важна не страціць гэты час на пустую балбатню. Ёсць вялікая верагоднасць, што пачнецца новы этап сур'ёзнай, прафесійнай работы. Узнікнуць новыя абавязкі, будзе праведзена праверка вашай прафесіянальнай кампетэнтнасці. З'явіцца жаданне і магчымасць для пачатку сур'ёзнай работы па выкананні доўгатэрміновых праектаў. Сям'я запатрабуе матэрыяльных укладанняў і маральнай кампенсацыі за нейкія раней зробленыя даўгі.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Прыпынак Гаіці

Зіма. Холад. Вячэрні цягнік марудна рухаецца па замерзлых рэйках у гудагайскім напрамку. Наперадзе станцыя Гауці. У вокнах цемра, у цьмяна асветленых вагонах цішыня і дрымота. І раптам машыніст, як відаць, не мясцовы, абыякавым голасам стомлена абвяшчае:

— Прыпынак Гаіці...

Агульны рогат спыняе цягнік канчаткова. "Абарыгены", задаволена ўсміхаючыся, рушаць да выхаду. Астатнія ў добрым настроі працягваюць падарожжа, з цікаўнасцю прыслухоўваюцца да наступных паведамленняў з дынаміка. Бо невядома, дзе яшчэ здолее спыніцца звычайны гудагайскі дызель.

**Вольга БОРБУТ.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 10500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. №5 (406) 31.1.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 433. Падпісана ў друк у 13.00 30.1.2003



Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.
E-mail: regionnews@promedia.by
http://regionnews.promedia.by


ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**


Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444